# Зьмест №. 1 „На Чужыне“:











## НОТЫ:



## МАПЫ:



# № 2 „НА ЧУЖЫНЕ“

## выйдзе ў Красавіку

і будзе зьмешчаць:

а) стацьці: „Беларусы ў Францыі“, „Беларусы ў Чэхіі“, „Беларусы ў Польшчы“, „Беларусы на Украіне“, „Беларусы на Дану“, „Беларусы на Каўказе“, „Беларусы ў Нямеччыне“ і іншыя,

б) малюнкі: партрэты нашых прэдстаўнікоў пры урадах Эўропы і фатаграфіі груп беларускіх дзеячаў і нацыянальных ўстаноў на чужыне,

в) карты і ноты.

# НА ЧУЖЫНЕ

літэратурна-грамадзянскі штомесячнік.

Сакавік 1920 г. Адрес Рэдакцыі і Канторы: м. Рыга, Бульвар Тотлебена 7, кв. 3. № 1.




8 Сакавіка 1920 года.

Чатыры гады с паловай цягнулася Вялікая Вайна, грамыхалі тысячы гармат, застілаючы ўвесь зямны шар воблакамі парахавого дыму, і арашаючы Зямлю патокамі чалавечай крыві.

Чатыры с паловай гады не бачыла чалавечэства ні воднаго луча Сонца Міра і задыхалося ў атмасфэры чалавеканенавісьнічэства і удушлівых газаў.

І вось год таму назад у адным з куткоў Зямлі сьціхлі грозныя удары, медленна-медленна пачаў распаўзацца едкі дым, і робка засьвеціўся першы слабы луч Сонца Міра.

На Заходзе Эўропы пачынаўся першы Мірны Дзень. Убіраліся трупы, раўняліся акопы, запахівалася зямля, зьверталіся гаспадары ў свае хаты.

Над намі тады, як і да гэтаго часу, віселі цемныя, мрачныя клубы, навісаўшыя ўсе ніжэй і ніжэй. Уся Бацькаўшчына пылала ў агнях, удоль і паперок яе йшлі акопы і шырокія полас калючай провалакі, пусталі паля, чарнелі спепелёныя руіны хат, вёсак і гарадоў, далека за межы свае Бацькаўшчыны была выкінута большая палова яе лепшых сыноў.

Прайшоў год.

Мільёны людзей ужэ загаілі свае раны, адбудавалі свае хаты і зноў мірна працуюць над счасьлівай будучынай свайго краю.

Мы, беларусы, ешчэ не дачэкаліся да гэтаго сьвята. Над нашымі галавамі ешчэ круцяцца смрадныя клубы, мы ешчэ не бачым сонца, мы ешчэ павінны змагацца з нашымі угнетацелямі і бароцца за сваю светлую будучыну.

Цяжка працуюць над Родным Будынкам астаўшыяся на Бацькаўшчыне беларусы. Крок за крокам адваёвываюць яны Родную Зямельку і адстаівают свае правы на яе.

С трэпетам сэрдца сьледзім мы, апыніўшыяся на чужыне, за гэтай барацьбой, цешымся с кожнай самай маленечкай удачы і горка сумуем, калі бачым няуспехі нашых братоў.

Але ў гэтай барацьбе мы не павінны астацца толькі сьведкамі.

У гэтым цяжкім змаганьні мы павінны дапамагчы нашым братом ўсім, чым толькі можэм: і моральным падтрыманьнем, і грашмі, і аружнай сілай.

Першыя крокі ў гэтым кірунку ужэ зроблены. Ужэ мы не раскіданы па ўсяму сьвету асобнымі, адарванымі друг ад друга адзінкамі, ужэ мы згуртаваліся на чужыне ў Калёніі, ужэ маем сваі нацыянальныя Установы, але гэта толькі першы крок. За ім павінна ісьці аб'еднаньне ўсіх зарубежных Беларусаў, каб агульнымі сіламі ратаваць Бацькаўшчыну.

Каб пасабіць гэтаму аб'еднаньню, каб выявіць усе Беларускія сілы, працуючыя на чужыне, каб злучыць іх у моцны зьвязак і працягнуць руку помачы нашым змучаным братом на Бацькаўшчыне, — выпускаем мы гэты штомесячнік.

Крэпка гуртуйцеся каля яго, Беларусы!

Хай ён будзе нашым маяком, і нашым звонам на чужыне. Хай сьвет і гул яго моцных udaраў, аб'едная нас тутака, ляціць на Бацькаўшчыну і дае сілы тым, хто часамі апускае у цяжкай барацьбе рукі.



## Думкі беларуса на чужыне.

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні, —
На чужое небо ўжо гляджу сягоньня,

Але думкай, сэрцэм толькі вас я знаю;
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.

І німа на сьвеце так вялікай меры,
І німа на сьвеце так каваных дзьвераў,

Каб хоць на часіну ў будні, ці ў нядзелі
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі.

* * *

Я ад вас далёка... А дзе ні гляджу я,
Дома толькі думка днюе і начуе;

Знаю толькі пушчы Белавежскай гоман,
Знаю толькі рэчку — с плытнікамі Нёман.

Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,

Што мне замянілі-б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі балерускай вёскі...

* * *

Я ад вас далёка... Дзеліць нас паўсьвета,—
А жыву-ж я з вамі і зіму і лета;

Чую з вамі ў восень непагоды песьню,
Цешуся с праталін вольнаго прадвесьня.

І ці сонцэ ўзойдзе, і ці сонцэ зайдзе,—
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;

З выраю-ж як толькі сустрэчаю гусі,
Весьці ў іх пытаю з роднай Беларусі.

* * *

Я ад вас далёка... Жыву меж чужымі,
Чую-ж вашы песьні,—вотклік шлю сваімі;

Дабываю песьні ад душы, ад сэрца,
Аж-бы сам за імі к вам ляцеў, здаецца.

Не зрабіць нікому гэткай дамавіны,
І ня вырыць ямы гэтакай глыбіны,

Каб у іх з вачэй мне Беларусю—маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

* * *

Я ад вас далёка... Божэ ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самай магілы,

Не пакіну думаць сьвітам і ў пацёмку,
Як там жывеце вы, як жыве старонка.

А хоць дасьць мне доля ў дамавіне мейсца,—
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца

І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Гдзе лежаць загоны Беларусі Роднай.

**Янка Купала.**



## Покліч Бацькі.

Праз цёмныя хмары на чуждай старонцэ
Зірнула на нас цёпла-роднае сонцэ,
І гоман пачуў я з радной стараны:
„Свабода калоціцца ў нашэваконцэ,
За Бацькаўшчыну ўсталі яе ўсе сыны!"

Сынкі! а мы што-жа?
Нам будзе ня гожа,
Каб мы не пайшлі на падмогу!

Сьмялей, не аглядайцесь,
Хутчэй сабірайцесь
І будзем гатовы ў дарогу!

**Бацька.**

25. 11. 1919 г.
Рэвель.

# Беларусы ў Латвіі.



Шеф Вайскова-Дыплёматычнай Місыі, Палкоўнік ЕЗАВІТОЎ, сярод членаў Рады Калёніі.
Сядзяць справа налева: 1)Консул Б. Н. Р. у Рызе Штабс-Капітан Б. Шымковіч; 2) намесьнік Старшыні Рады Беларускай Калёніі ў Латвіі — А. Сцепура; 3) Шэф Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р. ў Латвіі і Эстіі — Палкоўнік Езавітоў; 4) Старшыня Рады Калёніі Я. Данілюк; і 5) Прэдстаўнік Асобнаго Атрада Б. Н. Р. ў Эстіі пры Вайскова-Дыплёматычнай Місыі — Падпалкоўнік Мінгрэльскі. Стаяць справа налева Члены Рады Беларускай Калёніі ў Латвіі: 1) Я. Спіцын, 2) В. Найдзенаў, 3) П. Цветкоў, 4) В. Быкоў, 5) Г. Казячы, 6) Д. Кадоўба, 7) В. Дзюўбаноў і 8) А. Калмановіч.

Балтыцкае мора, Заходняя Дзьвіна і так званая Рыга-Арлоўская чугунка зрабілі тое, што беларусы і латышы ня толькі добра ведаюць друг-друга, як суседзі, ня толькі часта па ўсякім справам гасьцілі адзін у другога, але з даўных часоў цэлымі сямействамі перасяляліся друг да друга на вечнае жыцьцё. Латышы сяліліся у Беларусі, як арэндатары меньняў, як кіраўнікі рожных майстарскіх і установ на чугунцы; беларусы ганялі ў Рыгу платы з лесам, вазілі лён і іншыя рэчы.

Вось чаму, як у нас на Беларусі ёсьць шмат латышоў, ды таксама шмат беларусаў жыве ў Латвіі.

Гэта супольнае жыцьцё і агульныя інтэрэсы абодвых народаў прывялі да таго, што паміж іх ні ў мінуўшыя часы, ні ў сучасны мамэнт, ня было ніякіх непаразуменьняў, або сталкнавеньняў, і трэба спадзевацца, што гэтак будзе і ў будучыне.

Беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Латвіі началося ўжо даўно. Гадоў 75 таму назад утварылася ў Рызе Беларуская іудзейская абшчына; кожны год з адчыненьнем навігацыі паезджала ў Латвію шмат беларусаў; у часе вайны істнаваў ў Рызе Беларускі Вайсковы Камітэт 12-ай арміі, — але толькі ў сярэдзіне мінулаго 1919 году пачынаецца ў Латвіі шырокае аб'еднаньне ўсех беларусаў і праўдзіва нацыянальны рух паміж іх, прывеўшы да стварэньня ў Латвіі Беларускай Калёніі.

## Беларуская Калёнія у Латвіі.

Беларуская каленія ў Латвіі, налічывае, ў сваім складзе некалькі тысяч беларускіх грамадзян.

Арганізацыя яе пачалася ў жнівеню с прыездам у Рыгу некаторых беларускіх дзеячоў, павінных ў той мамэнт уцекаць з Гродзеншчыны, дзе палякі пачалі арэштовываць кіраўнікоў беларускаго руху.

7-го верасеня, у м. Рызе, адбыўся 1-шы Агульны Сход Беларускай Калёніі. Гэты сход насіў вельмі таржэсьцьвенны і паважны характар, сабраў больш 500 чалавек беларускіх грамадзян, знайходзіўшыхся ў той мамэнт у Рызе, і закончыўся стварэньнем Рады Беларускай Калёніі ў Латвіі. У Раду Калёніі з чысла прысутных былі выбраны 9 грамадзян, якія са свайго боку выбралі Прэзыдыум Рады Беларускай Калёніі ў Латвіі ў складзе: Я. Данілюк — старшыня Рады Калёніі, А. Сцяпура — намесьнік старшыні, П. Цветкоў — сэкрэтар.

Рада Калёніі праявіла добрую здольнасць да працы і, карыстаючыся з дапамогі Дыплёматычнаго Прэдстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі, здалела ў хуткім часе, не глядзючы на цяжкае становішча грамадзянскаго жыцьця ў бамбардзіруемай Бэрмантоўскімі вайскамі Рызе, зрабіць рэгістрацыю беларускіх грамадзян, сабраць добры лік грошай, прыступіць да грашовай дапамогі беднейшым членам Калёніі, саргенізаваць добры вечар ў дзень Вялікаго Беларускаго Сьвята 17 сьнежня і перакінуць арганізацыю беларусаў у правінцыю. Цяперака Рада прыступае да Культурна-Прасьветнай працы і асыгнавала грошы на выдавецтва і клюб, якія перадае Рыжэскому Аддзелу Беларускаго Культурна-Прасьветнаго Т-ва „Бацькаўшчына“.

## Беларускае Прэдстауніцтва ў Латвii.

Першым Урадавым Прэдстаўнікам Беларускай Народнай Рэспублікі з'явіўся ў Латвію Кіраўнік Міністэрства Ўнутраных Спраў грамадзянін К. Тэрэшчэнка, якому было даручэна аб'ехаць Латвію, Эстію і Фінляндзію і завязаць добрыя зносіны з Урадамі Балтыкі. Грамадзянін Тэрэшчэнка, маючы гэту спэцыяльную місыю, прабыў у Латвіі вельмі кароткі час і, зрабіўшы належныя крокі і адчыніўшы ў м. Рызе Консульства Б. Н. Р.*), с паручыкам Шымковічам на чале, — выехаў.

Сьледам за ім, праз некаторы час, прыбыла ў Латвію Вайскова-Дыплёматычная Місыя Б. Н. Р. ў складзе: Шэфа Місыі Палкоўніка К. Езавітава, Вайсковаго Райцы Падпалкоўніка Р. Шоўкаваго і Сэкрэтара Я. Чэрэпука. Місыя гэта 3-го кастрычніка 1919 г. ўручыла Міністру Міжнародозых Спраў Латвіі сваі граматы і таго-ж чысла была акрэдытована пры Урадзе Латвіі. З гэтаго мамэнту беларусы маюць ў Латвіі свае дыплёматычнае прэдстауніцтва**). Лік місыі, з адзывам падпалкоўніка Шоўкаваго, зьменшыўся, але праца яе ня спыняецца да гэтаго часу і ўсе больш і больш пашыраецца атрыманьнем ад Ураду Рэспублікі новых паўнамоцтваў і адчыненьнем рожных аддзелаў Місыі на мейсцы ў Рызе і ў іншых мейсцах. З аддзелаў Місыі ў Латвіі трэба адмеціць Рэгістрацыйна—Пашпартны Аддзел у м. Лібаве***), працуючы пад кіраўніцтвам грамадзяніна П. Цветкова. Ў хуткім часе маюць быць адчынены гэткія-ж Аддзелы у Дзьвінску і Мітаве.



Палкоўнік К. ЕЗАВІТАЎ.

Шэф Вайскова—Дыплёматычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстіі.

### Адносіны паміж латышамі і беларусамі ў Латвіі.

Як ужэ гаварылося, адносіны паміж латышамі і беларусамі ніколі ў гісторыі абодвых гэтых народаў не амрачаліся ніякімі прыкрасьцямі. Не зрабіліся яны варожымі і ў гэты мамэнт, не глядзючы на тое, што некаторыя з нашых суседзяў вельмі хацелі нас, тым ці іншым чынам, пасварыць. Прыхільнасьць абодвых нацыяў друг да друга выявілася с першых—жа крокаў ў Латвіі Рады Беларускай Калёніі, Беларускаго Консульства і Вайскова-Дыплёматычнай Місіі.

Каб падкрэсьліць шчырасьць гэтых адносін, тутака друкуюцца некаторыя афіцыяльныя паперы, пасланыя беларусамі і латышамі друг да друга ў Латвіі.

I.

### Тэлеграмма І-го Устаноўчаго Сходу Беларускай Калёніі да Ураду Латвіі.

„Ураду Латвійскай Рэспублікі праз Міністра-Прэзыдэнта Ульманіса:

Першы нацыанальны сход беларускага грамадзянства шчыра спагадае Дэмакратычнай Латвіі ў яе барацьбе за нацыанальна-народную вольнасьць і дзержаўную незалежнасьць. Беларусы моцна верацъ, што ў супольнай працы на Вэрсальскай Канфэрэнцыі Латвія и Беларусь дабьюцца прызнаньня сваіх Дзяржаваў і дабудуць сабе належнае сярод іх мейсца.

Нацыянальны Беларускі Сход".

II.

### Тэлеграмма Шэфа Вайскова-Дыплематычнай Місыі Б. Н. Р. Латвійскаму Ураду с паздраўленьнем па случаю пабеды латышоў над Бэрмонтам.

„Пану Міністру Міжнародовых Спраў Латвіі.

Накануне слаўнай для Латышскаго Народу Гадаўшчыны доблестная Латвійская Армія адзержала слаўную пабеду. Ад імені Беларускаго Народу і Ураду прашу перэдаць Народу і Ураду Латвіі самыя шчырыя па поваду абодвыхъ сабыціяў паздраўленьня і пажаданьня далейшых успехаў.

Шэф Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі

Палкоўнік ЕЗАВІТОЎ.

За сэкрэтара Г. Казячы.

Дорпат,
15 Лістапада 1919 г."

III.

### Адказ Міністра Міжнародовых Спраў Латвіі на тэлеграму Шэфа Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р. ў Латвіі і Эстіі.

ЛАТВІЙСКІ ЧАСОВЫ
УРАД.
Міністэрства Міжнародовых Спраў.
20 Лістападу 1919 г.
№ 4549.
м. Рыга.

Пан Палкоўнік,

Ад імені Латвійскаго Народу і Часоваго Ураду Латвіі маю гонар выразіць Вам сваю самую шчырую падзяку за паздраўленьне і жа-

*) Беларускае консульства спачатку намешчалося на М. Замкавай 3, а цяперака перэбралося ў новы будынак—Бульвар Тотлебена 7, кв. 3.
**) Рыга, Мікалаеўская 20, кв. 1.
***) Лібава, Розовая вул. 31.

...ханьне усьпеха, якоя Вы нам прысдалі па случаю Гадаўшчыны Маладой Латвійскай Рэспублікі і пабеды нашай храбрай Армii над дерзкім ворагам.

Я карыстаюся гэтым выпадкам, каб выразіць Вам чуўства жывой сымпатыі і шчырай дружбы, якія Латвійскі Народ і яго Урад чуўствуюць да Беларускаго Народу ў яго барацьбе за свабоду і незалежнасьць Страны.

Прыміце, Пан Палкоўнік, заверэньня у чуўствах маей найвышшай пашаны

Z. A. MEJEROWIC.

Міністэр Міжнарадовых Спраў.“

## Дзень 17-го сьнежэня ў Рызе.

Дзень 17-го сьнежэня — вялікае Беларускае Нацыянальнае Сьвята.

Ў гэты дзень беларусы, 2 гады таму назад*), сабраўшыся на І-шы Устаноўчы Усебеларускі Кангрэс**), — праклямiравалі Беларускую Народную Рэспубліку.

Дзе-б ня збіраліся беларускія дзеячы, яны заўсёды належным чынам сьвяткавалі гэты дзень.

Быў ён добра падкрэсьлены і ў Латвii.

Рада Беларускай Калeнii зрабіла ў дзень 17 сьнежэня вялікі канцэрт-баль, на які сабралося каля 1500 грамадзян-беларусаў з пражываючых у Рызе. Баль пасецілі Прэдстаўнікі Латвійскаго Ураду, з Міністрам — Прэзыдэнтам Грамадзянінам Ульманісам на чале, шмат членаў Народнаго Савету Латвіі са сваім Старшынёю, Грамадзянінам Чакстэ, немаль што ня ўсе Місыі Антанты і іншых Дзержаваў.

Уся Латвійская прэсса адазвалася на сьвята вельмі цёплымі і шчырымі стацьцямі, падкрэсьліваючымі гістарычную вартасьць гэтаго дня для беларусаў і ў кароткіх абглядах малюючымі гісторыю Бэларускаго Дзержаўнаго жыцьця за два апошніх гады. Некатарыя газэты, як напрыклад „Latwijas Şargs“, „Jaunakas Siņas“ пасьвяцілі беларусам па некалькі вялікіх стаўбцоў.

Не абыйшла дня 17 сьнежэня і расейская прэсса. Рыжэская газэта „Сегодня“ памесьціла перадавую стацьцю і інтэрвью с Шэфам Вайскова—Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р. ў Латвіі і Эстіі, Палкоўнікам Езавітавым.




Падпалкоўнік Р. ШОЛКОЎ.

Вайсковы Райца пры Вайскова — Дыплематычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі Латвіі і Эстіі.

## Аддзел Беларускаго Культурна-Прасьветнаго т-ва „Бацькаўшчына“ ў Рызе.

З ініцыятывы Старшыні Цэнтральнаго Праўленьня Беларускаго Культурна-Прасьветнаго Т-ва „Бацькаўшчына“, Палкоўніка К. Езавітова, ў Рызе адчыняецца Аддзел гэтаго Таварыства.

Группа членаў Каленii, на чале з некаторымі членамі Рады, шчыра ўзялася за гэту справу, апрацавала устаў, падыскала добрае памешканьне, ўвайшла ў зносіны з Латвійскім Урадам і ў хуткім часе адчыняе Аддзел і Клюб Аддзела на адной з лепшых вуліц м. Рыгі.

Каб грамадзяне ведалі, якую вялікую вартасьць мае гэта Таварыства у беларускім нацыянальным жыцьці, ніжэй друкуюцца аснаўныя параграфы гэтаго Таварыства:

„Аснаўныя параграфы Устава Беларускаго Культурна—Прасьветнаго Т-ва „БАЦЬКАЎШЧЫНА“.

(Устаў зацьверджаны Менскім Акружным Судом 17 жнівеня 1918 г.)

§ 1.

Беларускае Культурна—Прасьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ мае мэтай:

1) правадзіць ідэю беларускаго нацыянальнаго адраджэньня ў массы беларускаго народу і яго суседзяў праз выданьне кніг, брашур, і газэт на беларускай, расейскай, літоўскай, жыдоўскай, польскай і іншых мовах;

2) дапамагаць прасьвеце беларускаго народу:

а) адкрыцьцем школ, чытален, бібліатэк і тэатраў,

б) падтрыманьнем нуждаючыхся вучнеў, вучоных паэтаў, артыстаў і пісьменнікаў.

§ 8.

Таварыства „Бацькаўшчына“ распраcтраняе сваю працу ня толькі на беларускую тэрыторыю (губэрнii: Віцебская, Магілеўская, Смаленская, Менская, Городзенская і часьць Віленскай і Чэрнігаўскай), але і на тыя мяйсцовасьці,—дзе заўседы, ці часова істнуюць беларускія калёнii.

§ 10.

Аддзелы Таварыства павінны ў сваей працы кіравацца палажэньнямі, вылажэннымі у § 1 і § 8, у сэнсі кіраўнічых.

Для прылажэньня жа сваей працы да мяйсцовых варункаў, Аддзелы маюць права апрацовываць „Уставы Аддзелаў“ Таварыства.

Праўленьне Таварыства.

м. Менск. 15 верасеня 1918 года.“

Азнаёмлівая наша грамадзянства з гэтымі параграфамі, лежачымі ў аснове ўсех Аддзелаў Т-ва „Бацькаўшчына“, істнуючых ня толькі на Беларусі, але і на чужыне, мы шчыра верым ў [illegible]оя, што ў Беларускай Калёнii ў Латвii ня будзе ніводнаго грамадзяніна, які-б не паспешыў запісацца ў Таварыства і ня ужыў бы ўсіх спосабаў да таго, каб падняць працу яго на належную высату.

---

*) У ноч з 17-го на 18-ае сьнежэня 1917 года па стараму стылю.

**) Першы Усебеларускі Устаноўчы Кангрэсс адбыўся ў м. Менску 5—18 сьнэжэня 1917 году. На ім было прысутна 1872 дэлегата з усіх куткоў Беларусі. Кангрэсс па поўнасьці выяўленьня народнай волі не мае сабе прыкладаў сярод іншых паўстаўшых на тэрыторыі былай Расеі народаў.

# Беларусы ў Эстіі.

Да 1918 году беларусам вельмі рэдка прыходзілася спатыкацца з эстамі. Рэвель, Дорпат і Нарва ляжалі ў боку ад пратораных беларусамі дарогаў шляхаў. На Амур, і, агулам на Сыбір, беларусы ехалі праз Маскву, ў Туркестан праз Каўказ, у Паўночную Амэрыку і Канаду — праз Рыгу і Лібаву.

Таксама і Эсты былі ў нас аўсім выпадковымі гасьцьмі.

С пачатку эвакуацыі Беларусі пацягнуліся гаротныя беларусы на Поўнач і папалі, паміж іншым, невялічкай часткай, у Эстію. Асабліва многа папалілося тамака чугуншчыкаў.

У 1918—1919 гадах лік гэтых уцекачоў павялічыўся новымі беларускімі уцекачамі з галоднаго Петраграду і Фінляндыі, а у 1919 годзе сюдой праз Нарву, Ёву і Пскоў хлынулі ў вялікім ліку яшчэ асобныя уцекачы — уцекачы з Чырвонай арміі, сілком у яе набраныя бальшавікамі на занятай імі частке Беларусі. С прыходам апошніх, агульны лік беларускіх уцекачоў у Эстіі павялічыўся за некалькі тысячаў. Частка іх, не маючы працы, павінна была ўвайсьці ў Паўночна-Заходнюю Армію, другая частка згуртавалася каля Гэнэрала-беларуса Булак-Балаховіча *).

Выпадковы прыезд, або прыход, у Эстію, чужая мова, адсутнасьць працы, ўсё гэта прымушае большасьць беларусаў з нецярплівасьцьцю рвацца на Бацькаўшчыну, але цяжкія варункі пуці, адсутнасьць да самаго апошняго часу добрай зьвязі с Беларусьсю чугункай, — крэпка трымае іх на мейсцы і заставляе ўжываць ўсех спосабаў, каб як-небудзь прадтрымацца да вясны 1920 году, калі ўсе яны маюць надзею абавязкова папасьць на Бацькаўшчыну.

## Беларускае прэдстаўніцтва ў Эстіі.

Як вышэй уже гаварылося, перагаворы з Урадамі Балтыкі былі даручаны Кіраўніку Міністэрства Ўнутрэнніх Спраў, Грамадзяніну Тэрэшчэнке. З гэтай мэтай, ен, закончыўшы справы ў Латвіі, выехаў у Эстію, але варункі зложыліся так, што ў мамэнт яго прыезда ў Рэвель Міністэр Міжнародовых Спраў Эстіі выехаў на тыдзень у Гэльсінгфорс. Не маючы часу яго чэкаць, Грамадзянін Тэрэшчэнка вярнуўся на Бацькаўшчыну, і перагаворы фармальна закончыліся нічым.

Каб давесьці і гэту справу да канца, мандат на перагаворы з Урадам Эстіі быў дадзены Вайскова—Дыплёматычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі, акрэдытаванай у Латвіі.

18 кастрычніка 1919 году Шэф Вайскова—Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р. ў Латвіі і Эстіі, Палкоўнік Езавітоў, уручыў грамату Урада Беларускай Народнай Рэспублікі Міністру Міжнародовых Спраў Эстіі і быў акрэдытован пры Эстійскім Урадзе.

Таго-ж дня Місыя пачала рэгістрацыю і выдачу нацыянальных пашпартоў, дзеля якой у Рэвэлі быў адчынены Рэгістрацыйна—Пашпартны Аддзел Місыі*).

Шэфу Місыі і Кіраўніку Рэгістрацыйна—Пашпартнаго Аддзелу ў Рэвэлі прышлося выцярпець вельмі цяжкую і вялікую працу. З усіх бакоў іх паляцелі лісты, заявы і просьбы, главным чынам аб грашовай дапамозе і аб звароце на Бацькаўшчыну. Частка грамадзян была адпраўлена, але большасьць прышлося, па некаторым варункам, затрымаць у Эстіі. Каб дапамагчы тым із, якія абсалютна нічога ня мелі і, згуртаваўшыся пасьля распаду Паўночна—Заходняй Вялікарасейскай Арміі ў м. Нарве і Еўе, цярпелі вялікую нужду, голад і холад,—у Нарву і Еўе быў па... даны асобны Прэдстаўнік Місыі па справам уцекачоў, грамадзянін Л. Міхэльсон, які заложыў у Нарве Беларускі Бежанскі Камітэт, увайшоў у зьвязак с Амэрыканскай Місыяй Чырвонага Крыжа і, з яе дапамогі, наладзіў пітаньне уцекачоў і распрэдзеленьне іх па іменьням ўвакрут м. Еўе.

## Беларускі нацыянальны камітэт у Рэвэлі.

Калі выяснілося, што ў м. Рэвэлі, згуртавалося шмат беларусаў, зарэгістрыраваўшыхся ў Рэвэльскім Аддзеле Місыі,—найбольш відомые энэргічныя з гэтых грамадзян былі склікалы Шэфам Місыі ў памешканьню Аддзела і ім была прапанована арганізавацца ў Эстіі, па прыкладу Латвіі, ў цесна згуртаваную Беларускую Калёнію.

Думка Шэфа Місыі найшла жывейшы водгалосак. Сабраўшыяся грамадзяне пастанавілі утварыць Ініцыятыўны Камітэт, якому даручылі с пачатку зрабіць у м. Рэвэлі агульны сход беларусаў, на гэтым сходзе стварыць Беларускі Нацыянальны Камітэт, а потым праз гэты Камітэт і Аддзел Місыі зарэгістрыраваць ўсех грамадзян, пражываючых у Эстіі, зьеднаць іх у Калёнію і, прабіўшы з'езд, выбраць Раду Беларускай Калёніі ў Эстіі.

Заява ад 10-га сьнежэня 1919 года паведамляе Місыю аб тым, што Беларускі Нацыянальны Камітэт у Рэвелі ужэ прыступіў да працы.

## Асобны атрад Беларускай Народнай Рэспублікі у Эстіі.

Асоба Гэнэрала Булак—Балаховіча еще з восені 1918 году вельмі цікавіла Урад і шырокія грамадзянскія кругі Беларусі, але адсутнасьць афіцыяльнаго Беларускаго Прэдстаўніцтва ў Эстіі не давала магчымасьці сабраць аб ім пэўных вестак**). Вось чаму Вайскова—Дыплёматычная Місыя Б. Н. Р., як толькі яна была акрэдытавана ў Эстіі, адраву жа ўвайшла ў зьвязь з Гэнэралам Булак—Балаховічам і, выясніўшы пытаньне ...

*) Гэнэрал Булак—Балаховіч працаваў ндзін час сунодьна с Камандаваньнем Паўночна—Заходняй Вялікарускай Арміі, але потым разыйшоўся з ім па некаторым пытаньям і арганізаваў, карыстаючыся з дапамогі эстаў, Асобны, нежалезны ад Паўночна—Заходняй Арміі, Атрад, набраўшы у яго главнымъ чынам беларусаў.

*) Отель „Залаты Леў".

**) Літвіны распускалі весткі аб тым, што ен—літвін, паляні лічылі яго паляком, а расейцы — „с в а і м".

яго нацыянальнасьці і палітычных паглядах, прыступіла да перагавораў аб пераходзе яго на Беларускую службу.

Хутка высьнілося, што Гэнэрал Булак—Балаховіч, ня толькі не паляк, або літвін, ня толькі самы праўдзівы беларус, але ешчэ і добра сьвядомы ў беларускім пытаньні грамадзянін, добра ведае беларускую літэратуру і мову, і навет сам піша вершы па беларуску *).

Пачуўшы аб прыездзе ў Эстію Беларускага Вайскова—Дыплёматычнага Прэдстаўніцтва, ён адразу-ж з'явіўся да Шэфа Місыі, Палкоўніка Езавітова, і ўручыў яму заяву гэткаго зьместу:

„АТАМАН
Добровольческаго Народнаго
Отряда
14 ноября 1919 года.
№ 734.
Действ. Армія.

Старшыне Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі
праз
Шэфа Вайскова—Дыплёматычнай Місіі ў Латвіі і Эстіі Палкоўніка Езавітова.

З'ўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб мае войска было скарыстана для забароны цэльнасьці і недзялімасьці маей Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на Беларускую службу.

Гэнэрал-Маёр
Булак-Балаховіч."

Шэфам Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р. ў Латвіі і Эстіі заява гэта была прынята і перэслана Ураду. У адказ жа на яе Гэнэрал Булак-Балаховіч быў залічаны на Беларускую службу і атрымаў ад Шэфа Місыі гэткі рэскрыпт:

„ВАЙСКОВА-ДЫПЛЕМАТЫЧНАЯ МІСІЯ
БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
ў Латвіі і Эстіі.
15 Лістапада 1919 года.
№ 62.
м. Юрьеў.

Атаману Дабравольчэскаго Народнаго Атрада Гэнэрал-Маёру
Станіславу Нікадзімавічу Булак-Балаховічу.

Грамадзянін Гэнэрал,

Сенека мною атрымана ад Вас для перадачы Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі заява аб тым, што Вы, як грамадзянін Беларусі, лічыце патрэбным стаць на забарону сваей Бацькаўшчыны, каб забэспечыць ёй цэльнасьць і непадзельнасьць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Глыбока тронуты і усьцешаны Вашай заявай, я срочным чынам напраўляю яе майму Ураду, які, я ў гэтым пэўны, будзе вельмі здаволены ею і, ў самым худкім часе, прышле да Вас паведамленьне аб здавольненьні Вашай просьбы і падзяку ў гатоўнасьці паслужыць Бацькаўшчыне.

Да гэта-ж часу, на моцы дадзеных мне Радай Міністраў паўнамоцтваў, я выражаю Вам, Грамдзянін Гэнэрал, вялікую падзяку ад імені нашай многапакутнай Бацькаўшчыны і паведамляю Вас, што з гэтаго часу Вы з Вашым войскам лічыцесь на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі, як Камандзер Асобнаго Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі.

Шэф Місыі
Палкоўнік Езавітоў."

Гэнэрал-Маёр БУЛАК-БАЛАХОВІЧ.
Камандзер Асобнаго Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі.

Адначасна с перагаворамі с Гэнэралам Булак-Балаховічам, Вайскова-Дыплёматычная Місыя Б. Н. Р. зьвернулася да Ураду Эстіі с прапановай прэдставіць Асобнаму Атраду Б. Н. Р. магчымасьць, пад камандаваньнем Гэнэрала Булак-Балаховіча, часова, астацца на тэррыторыі Эстіі, каб закончыць тутака фармаваньне і потым перайсьці на Бацькаўшчыну. Згода Урадам Эстіі была дадзена, і Асобны Атрад Б. Н. Р. часова астаўся ў Эстіі, заняўшы кавалак праціўбальшавіцкаго эстійскаго фронту, на правым фланге Эстійскай Арміі.

Цяперака фармаваньне скончэна і Атрад чэкае стварэньня варункаў, ў якіх для яго магчыма-б было перайсьці на Бацькаўшчыну.

## Адносіны паміж беларусамі і Эстамі.

Хаця беларусы, паміма сваей волі, і з'явіліся для эстаў у эканамічным сэнсі некаторай абузай, але супольныя інтэрэсы абодвых народаў і забарона Беларускімі ваякамі Эстійскіх зямель, зрабілі тоя, што паміж беларускімі ўцекачамі і эстамі устанавіліся досіць добрыя адносіны. Асабліва-ж узаёмна падкрэсьлены яны былі с прыездам у Эстію Вайскова-Дыплёматычнай Місыі. Урад і грамадзянства цёпла спаткалі беларускае прэдстаўніцтва. Газэты памесьцілі вялікія інтэрвью с Шэфам Місыі. Прамова-ж Шэфа Місыі, Палкоўніка Езавітоўа, на абедзе ў чэсьць прэдстаўнікоў, з'явіўшыхся на Канферэнцыю ў Юрьеве, мела такі вялікі успех, што камэнціравалася потым у працягу некалькіх тыдняў усей эстійскай прэссай.

*) Па прафэсіі Гэнэрал Булак—Балаховіч—аграном і, як гэтакі, добра вядомы з 1905 году беларускаму сялянству Дісьненскаго павету, дзе яму прышлося быць, паміма волі, рэвалюцыйным судзёй паміж селянамі і памешчыкамі і дзе ен атрымаў, ешчэ у тыя часы, сваю арыгінальную клічку—„БАЦЬКА". На вайсковым шляху ён выдвінуўся ў апошнюю вайну з немцамі, як ма рэдкасьць адважны конны партызан.

# Беларусы ў Фінляндзіі.



Надзвычайны Прэдстаўнік Беларускай Народнай Рэспублікі ў Балтыцэ Інжэнер К. Душэўскі, са сваім Ад'ютантам Капітанам Кордом і лічным сэкрэтаром М. Ляховічам.

Сумныя скалы, беззямельле і адсутнасьць працы для прыезжых,—не маглі цягнуць беларусаў у Фінляндзію. І не цягнулі. Тутака найменьш, чым ў якой-небудзь іншай частке былай Расеі, апынілося беларусаў. Большасьць з іх,—вайсковыя, апыніўшыяся тутака не па сваей ўласнай волі, а па волі расейскаго вайсковаго начальства. У часе рэвалюцыі тутака утварыліся беларускія вайсковыя камітэты, якія істнавалі да мамэнту развала расейскай арміі, а потым распаліся. Найбольш вялікі Беларускі Вайсковы Камітэт, працаваўшы пад кіраўніцтвам Гэнэрала-беларуса Алексееўскаго, быў у Выборзе. Цяперака адзінока раскіданы беларусы па ўсей Фінляндзіі і да гэтага часу не згуртаваліся ні ў які нацыянальны гурток.

Першым Прэдстаўнікам Беларускаго Ураду ў гэтай старонцы быў Шэф Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстіі, Палкоўнік К. Езавітоў, з'явіўшыйся сюды, с Консулам м. Рыгі, Штабс-Капітанам Б. Шымковічам, даеля ўручэньня Ураду Фінляндзіі мэморыяла. Зрабіўшы належныя крокі прад Урадам Фінляндзіі і адчыніўшы ў м. Таммерфорсе Рэгістрацыйна-Пашпартны Аддзел Місыі с грамадзянінам Чэрвяковым на чале, гэтыя Прэдстаўнікі Беларускаго Ураду выехалі ў мейсца сваей заўсегдашняй працы *).

Роўна праз месяц, 29 лістапада, сюды прыехаў Надзвычайны Прэдстаўнік Беларускай Народнай Рэспублікі у Балтыцэ, грамадзянін Душэўскі. Ён быў надта цёпла спатканы Урадам, прэссай і грамадзянскімі кругамі Фінляндзіі, якія вельмі былі зацекаўлены беларускімі справамі і беларускім жыцьцём, зрабіў шмат дыплёматычнай працы і дабіўся прызнаньня Фінляндзіяй незалежнасьці Беларусі.

Беларуская нацыянальная праца ў Фінляндзіі пачынаецца зноў, лік і грамадзянскае становішча асобных беларусаў выясняецца, і трэба спадзевацца, што ў хуткім часе мы будзем мець і ў Фінляндзіі невялічкую, але цесна згуртованую Беларускую Калёнію.

*) Візыт гэты цягнуўся ўсяго 4 дні: з 25-га па 28-га кастрычніка 1919 г.



гр. Фэліцэта Данілюк. Вядомая беларуская нацыянальная танцаўшыца.

# Беларусы ў Літве.

Літоўцы і беларусы ня толькі блізкія суседзі, але і грамадзяне адн супольнай, ў мінуўшчыне, Дзержавы: Беларуска-Літоўскага Вялікага Княжства. Таму абоіх народаў злучае ня толькі агульная дзержаўная межа, што цягнецца паміж імі ў працягу 400 кіламэтраў, але і агульная гістарычная прошласьць, агульная культура, агульныя эканамічныя інтарэсы і агульныя ворагі, як ў мінуўшчыне, так і ў сучаснасьці. У былым Вялікім Княжстве Беларуска-Літоўскім панавала беларуская мова, на якой пісаліся ўсе Статуты*), гаварылі вышэйшыя кругі і Княжскі Двор, пісалася літаратура, цэркоўныя кнігі**) і вяліся афіцыяльныя зносіны паміж большасьцью установ Княжства. Самы Дзержаўны Гэрб Беларускі—Пагоня,—які маюць ўсе беларускія гарады***) быў Дзержаўным Гэрбам Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага і прыняты цяперака абедзьвымі паўстаўшымі Дзержавамі****).

Да самаго апошняго даваеннаго часу беларускае і літоўскае нацыянальнае жыцьцё йшло разам, апіраючыся друг на друга і дапамагая адно другому.

Вільня была цэнтрам гэтай нацыянальна-адрадзіцельнай фэдэрацыі. Тутака мацней, чым ў іншых беларускіх цэнтрах, жыла думка і вялася праца над адраджэньнем Беларуска-Літоўскай Дзержавы.



П. КРЭЧЭЎСКІ.
Сэкрэтар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Надзвычайны Прэдстаўнік Беларусі пры Літоўскім Урадзе.

Вайна ў 1915 гаду разрэзала Беларусь на дзьве часткі: Вільня-Городзенскую і Полацка-Менска-Смаленска-Магілеўскую. Першая цягнула далей /супольную беларуска-літоўскую працу і, на моцы бальшавіцка-нямецкай умовы ў Берэсьньце, была злучана, па нямецкім настаяньням, з Літвой*). Другая-ж працавала за нямецка- расейскім фронтам над стварэньнем Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ў 1918 гаду абедзьве беларускія часткі злучыліся, выраўнялі лінію сваей палітыкі і прапанавалі літвінам, апіраючыся на гістарычную традыцыю, пачаць працу над стварэньнем Федэратыўнай Беларуска-Літоўскай Дзержавы. З гэтай мэтай, восеньню 1918 году, Рада і Кабінэт Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі паслалі да Літоўскай Тарыбы **) асобную дэлегацыю з членаў Рады. Гэта Дэлегацыя прабыла ў Літве целы тыдзень, але ні да якай умовы не дайшла, бо літвіны баяліся фэдэрацыі з усёй Беларусьсю***), і прапанавалі, каб беларусы згадзіліся на падзел сваей Бацькаўшчыны і дазволілі Городзеншчыне і Віленшчыне федэрыраваць з Літвой, а Меншчыне, Полаччыне, Вітэбшчыне, Смаленшчыне і Магілёўшчыне,—або утварыць Незалежную Беларускую Дзержаву, або фэдэрыраваць з Вялікарасеяй. Гэта прапазыцыя вельмі абразіла беларусаў і яны адразу-ж акончылі перагаворы і выехалі ў Менск.

Праз некаторы час пачалося бальшавіцкае наступленьне, і варункі зложыліся для Беларусі так кепска, што Рада Рэспублікі і Кабінэт Міністраў павінны былі пакінуць Бацькаўшчыну і выехаць ў Прагу—Чэшскую.

Прад ліцом бальшавіцкай небэзпекі і пад націскам немцаў, некаторыя Віленскія і Городзенскія Беларускія установы павінны былі згадзіцца на супольную з літвінамі працу, пакінуўшы развязаньне Берасьцейскай Умовы—Мірнаму Кангрэссу ў Вэрсалі.

Пачынаючы супольную з літвінамі працу, беларусы, як і еўрэі, выгаварылі сабе ў Літве

---

*) Статут Каз. Ягэллона ў 1492 гаду; Статут Вялікаго Княжства Беларуска-Літоўскаго ў 1588 гаду і інш.

**) Беларуская Біблія Д-ра Францышка Скарыны, выданая ў 1517 гаду, зьяўляецца трэцьцяй па даўнасьці біблiяй ў сьвеце.

***) Полацк мае на белым палатнішчы штандара белага каня с чырвоным чапраком і коннікам ў сярэбраных латах; Вітэбск мае на зялёным палатнішчы штандара белаго каня с чырвоным чапраком і коннікам ў сярэбраных латах; Мсьціслаўль мае на жоўтым палатнішчы штандара белаго каня с чырвоным чапраком і коннікам ў сярэбраных латах; Брэст мае на чырвоным палатнішчы штандара сіняга каня с сінім чапраком і коннікам ў стальных (сініх) латах; Менск мае на жоўтым палатнішчы штандара чырвовы круг, а ў ім-белага каня с жоўтым чапраком і коннікам ў залатых латах; Навагрудак мае на чырвоным палатнішчы штандара белага каня с чырвонымі чапракомі коннікам ў сярэбраных латах і белага ангела з мечом, і г. д.

****) Літвіны (Жмудзь) мелі ў Вялікім Княжстве Беларуска-Літоўскім асобны гэрб: чорнага мядзьведзя з белым ашэйнікам, стаячаго на задніх лапах і павернутага налева,—але пры адбудове сваей дзержаўнасьці літвіны не захацелі ўзяць г[illegible] гэрб і прынялі агульны гэрб с беларусамі.

*) Прэдстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі на Міравой нарадзе ў Берасьцьце—С. Рак—Міхалоўскі і А. Цвікевіч, ў сваім часе апратэставалі гэты падзел, але таму, што немцам вельмі была патрэбна калея чугункі, праходзячая праз Кёнігсбэрг, Проскен, Беласток і Берэсьцьце на Украіну, а таксама таму, што беларусы ня прыймалі, дзякуючы бальшавіцкім перашкодам, афіцыяльнага учасьцьця ў Берасьцейскай Міравой нарадзе,—на іх пратэсты ўвагі ня было зьвернута, і Беларусь была падзелена паміж літвінамі, бальшавікамі і украінцамі.

**) Літва ў той час ешчэ ня мела свайго Кабінэту Міністраў.

***) Літвіноў 3.000.000, а Беларусаў 12.000.000. Літвіны баяліся, каб, гэта лічэбная перавага не зрабіла, як і ў мінуўшчыне, перавагі культурнай і эканамічнай.

# Беларусь паміж сваймі суседзямі.



Палажэньне Беларусі у Эўропе.

## Палажэньне Беларусі.

Беларусь ляжыць*) у самай сярэдзіне Эўропы. Яна займае вялікі кавалак зямлі, які, можна сказаць, з большаго мае форму трапэцыі з асноваю ўдаўжкі ў 700 вер., а ўвышкі ў 550 вер. (верхняя аснова мае ўдаўжкі каля 400 верст). Значыцца, каб пераехаць церав усю Беларусь з усходу на захад прыдзецца ехаць 100 міль, а з паўдня на поўнач—80 міль. Каб аккуратней адзначыць мейсца, дзе ляжыць наша бацькаўшчына на зямной кулі, мы мусім сказаць, што яна ляжыць балей-менеей паміж 40 і 52 градусамі ўсходняе даўжыні (лічачы ад Фэрро) і намыж 51 і 57 градусамі паўночнае шырыні. Як разў заходняй Беларусі ёсьць географічны цэнтр Эўропы (42, 5° і 54°)

*) Гляндзі карту „Палаженьне Беларусі ў Эўропе". На мапе Беларусь заштрыхавана светлымі лініямі, парралельнымі верхнему краю мапы, і адзначана цыфрай—7.

На гэтай жа мапе паказаны ўсе ўноў адрадзіўшыяся дзержавы: Фінляндыя—пад цыфрай—3; Эстія—цыфрай—4; Латвія—5; Літва—6; Польшча—8; Украіна—9; Донская Рэспубліка—30; Кубань—31; Грузія—32; Арменія—33; Чэхо Славія—14; 15; Аўстрыя 18; Венгрія 17; Поўднева—Славія (Юго—Славія)—16.

## Простор Беларусі.

Беларусь займае прастору каля 300.000 квадр вёрстаў, альбо 30.000.000 дзесяцін. Прастор гэта немалы. Сярод культурных краеў ня шмат такіх, каб мелі балей зямлі, чымсі мае Беларусь. Большая часьць гаспадарстваў ў Эўропе займае меньшы прастор.

Большыя за Беларусь вось якія старонкі: Нямеччына-больш у $1^{1}/_{2}$ разы (мае 480.000 кв. вёрст), Францыя, Швэдыя, Гішпанія. Большыя за Беларусь і Украіна і Маскоўшчына-гэтыя старонкі маюць найбольш у Эўропе зямлі —Роўна з Беларусьсю зямлі маюць: Англія (без калёніяў), Італія, Нарвегія і Фінляндзія. А рэшта—Баўгарія, Румынія, Польшча, Літва, Грэцыя, Сэрбія, Бэльгія, Швайцарыя і шмат іншых-маюць зямлі меньш чымся ў Беларусі ў 2, ў 3 і больш таго разоў.*)

*) Глядзі мапу „Палажэньне Беларусі ў Эўропе.

### Колькасьць насяленьня і яго шчыльнасьць.

Шмат зямлі ёсьцо ў Беларусі, ды рэдка народ ў ёй жыве. На ўсім прасторы Беларусі жыве усяго каля 16.000.000 чалавек. Большая часьць зямлі ў нас ляжыць пад бесканечнымі лясамі, пад дзікім балотам. Ворнай зямлі ў нас ня шмат, дый на тэй, якая ёсьць, наш народ гаспадарыць блага, бо лепей ня ўмее. Дык нашая зямля ледзь-ледзь пракормлівае гэтых 16.000.000 чалавек.

У Немеччыне на гэткім самым прасторы жыло-б міліёнаў 44 народу, а у іншых старонках (напр. ў Бэльгіі) шмат балей.

Дзеля гэтаго па колькасьці насяленьня эўропэйскія гаспадарствы ужо ня ў $1^1/_2$ разы большыя за Беларусь, а ў 3, ў 4 разы. Нямеччына мае 65.000.000 народу, каля гэтаго мае і Англія і Аўстрыя. Меней маюць Італія, Францыя, Украіна, але усе-ж шмат балей чымся Беларусь. У Польшчы, Гішпаніі народу будзе блізка што толькі, колькі і ў Беларусі, а рэшта гаспадарстваў маюць насяленьня шмат меней, чымся ёсьць у Беларусі. Гэткія культурныя старонкі, як Швайцарыя, Фінляндыя, Данія маюць ўсяго па 3.000.000, а ў Грэцыі і Норвэгіі нема 2.000.000 жыхароў.

За тое, з боку гушчыні насяленьня, Беларусь стаіць бязмална ў самым канцы ўсіх Эўропэйскіх гаспадарстваў. У Беларусі на 1 квадр. вярсьце—кругом бяручы-жыве ўсяго толькі 50 чалавек. Радзей, як ў Беларусі, народ жыве яшчэ вось ў якіх старонках—у Грэцыі, Маскоўшчы[не], Швэдзіі. У Фінляндзіі ня 1 кв. вярсьце жыв[е] толькі 10 чалавек. Тым часам старонка г[эта] вельмі культурная, дый людзі там багата жыву[ць].

### Суседзі Беларусі.

З захаду Беларусь мяжуецца з Польшч[ай], Літвою і Латвіяй. Даўжыня мяжы з Польш[чай] каля 250 вёр., Літвой 400 вёр., Латвіяй 200 вёр[ст].

На паўдня ад Беларусі ляжыць Укра[іна]. Мяжа з ею мае даўжыні каля 1000 вёрстаў.

З усходу і поўначы Беларусь аблягае Ма[с]каўшчына. Мяжа з ею мае даўжыні каля 900 вёр[с]таў.




Межы Беларусі.

Беларусь яшче не разьмяжавалася аккурат[на] з сваймі суседзямі. Дзеля гэтага, кажучы [аб] межах Беларусі, мы разумеем тыя межы, ў які[х], як ўсе згаджаюцца, жыве беларускі народ. Быць можа, што пры устанаўленьні межаў які[сь] вялічкі лапік беларускае зямлі дастанецца якому суседу, альбо наадварот, дзеля таго, каб меж[ы] крыху выпрасталіся. Дык межы Беларусі могуць яшчэ зьмяніцца*).

А. Смоліч.

*) Каб паказаць магчымасьць зьмены ў межах Беларусі, мы тутака друкуем сраўніцельную карту „Межы Беларусі" састаўленную па беларускім („Карта Беларускай Народнай Рэспублікі" выданьня Міністэрства межаў родовых спраў), расейскім („Этнографическая карта Белорускаго племени", акадэмічнае выданіе 1903 года), нямецкім (вялікі лік карт, рожных выдавецтваў) і польскім крынiцам („Geograficno—statystybzny atlas Rolski"—D-ra Romera, Warszawa i Krakow, 1916 g).

# Весткі з Бацькаўшчыны.



Дохтар АНТОН ЛУЦКЕВІЧ.
Старшыня Рады Народных Міністраў і Міністэр Закардонных Спраў Беларускай Народнай Рэспублікі.



СЫМОН РАК-МІХАЛОЎСКІ.
Старшыня
Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады.

Сумныя весткі даходзяць да нас з Бацькаўшчыны.

Польскія аккупанты, навадніўшы яе сваімі вайскамі, вядуць нешчадную барацьбу з усімі, хто не стаіцьна пагляде прылучэньня Беларусі да Польшчы.

Рада Народных Міністраў і Рада Рэспублікі на кожным кроку спатыкаюць у аккупацыйнай уладысамыя ворожыя адносіны і ўселякія перашкоды, да арэшту сваіх членаў уключыцельна*).

Народ беларускі аграбляецца і абманываецца ўсемі способамі. Здзек і прымус дайшоў да таго, што нават вядомы палякафіл, Менскі каталіцкі біскуп Ладаінскі, зьвярнуўся да польскіх салда-

*) Як прыклад: ў снежэню польская жандармэрыя арэштавала членаў Рады: П. Бадунову, Я. Мамоньку, В. Ластоўскага і Козіча, якія, апрача Ластоўскага, сядзяць да гэтага часу ў астрозе.




Беларуская Камэндатура ў Городне,
разьбрэсдзяна палякамі за незгоду працаваць пад іх загадам ў травеню месяцы 1919 году.
Сьнімок зроблен пры візыце ў Камэндатуру Французкаго Палкоўніка Рэбуль.

тоў і афіцэроў са словамі абразумленьня і увешчаньня і апублікаваў асобнае, па гэтаму пытаньню, пасланіе.

Беларускія школы, не маючы грашовага падтрыманьня, павінны зачыняцца, а калі дзе і істнуюць, то толькі за ўласны кошт бацькоў, пасылаючых сваіх дзетак ў школу.

на штыкі польскіх легіянэраў, зноў запанава... Беларусі „паншчыну", зноў заставляюць бе... рускага селяніна здымаць прад сваей ... шапку і цалаваць панскую руку.

Беларускае войска, якому Я. Пілсуд... абецаў ўселякую дапамогу ў фармаваньні, спатк... з боку польскай акупацыйнай ўлады самыя ... ровыя адносіны і ўселякія перашкоды.



ТОМАШ ГРЫБ.
Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Рэдактар Беларускай газэты „Родны Край". За газэтную працу арэштаваны польскай жандармэрыяй.



ЯЗЭП МАМОНЬКА.
Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Арэштованы польскай жандармэрыей за прапаганду думак аб Незалежнасьці Беларусі.

Беларускім каапэратывам адмоўлена ў ссудах і транзіце і запрапанована ўвясьці ў дзелаводзтве польскую мову. А побач з імі адчынены і снабжаны вялікімі грашмі з Варшавы—каапэратывы польскія.

Беларус, праваслаўн. духав арэштовываецца, праваслаўныя цэрквы перарабляюцца на каталіцкія а праваслаўнае селянства астаецца бяз духавенства, бяз цэрквы і бяз спаўненьня духоўных трэб.

Беларускія землі, лясы і памесьцьця зноў захвачаны польскімі панамі, якія, апіраючыся

Беларускае выдавецтва і прэсса ўзяты ... двайны надзор польскай жандармэрыі і ... разведкі і ледзьве-ледзьве дышуць, падвергаючыся кожны тыдзень штрафам, канфіскацыям і ... там.

Гэткае становішча доўга цягнуцца не мо... Незадаваленьне ўзрастае ўсе больш і больш ... трэба чэкаць, што вясной, калі адносіны пал... да беларусаў не зменяцца, яно выльецца ... новыя анціпольскія паўстаньня.



Беларусы і амэрыканцы ў Городно.

Група сфатаграфована на вакзале ў Городно ў момант ад'езду Амэрыканскай Місыі (1, 2, 3) маёрам Росам (1) на чале. Праводзяць Амэрыканцаў на вакзал выбітныя члены Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі: В. Захарка і А. Цвікевіч, а таксама і начальнікі Беларускіх вайсковых частак ў Городно с Палкоўнікам К. Езавітовым (4) начале.



Вайсковы пасёлак на Беларусі.

Ў часе Вялікай Вайны ўся Беларусь, праз сярэдзіну якой якраз праходзіў нямецка-расейскі фронт, ... тыя радам вайсковых пасёлкаў: з аднаго боку расейскі... а з другога боку нямецкіх. Гэтыя пасёлкі, ... гады таму назад бурным вайсковым жыцьцём, ... зусім абязлюдзелі і патроху развальваюцца.

# Беларускі Рэвалюцыйны Гімн.

## (Народны твор).










Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
Мы знаем што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць.

Што гэта за марная доля несчасная,
Бэз хлеба, бэз грошай працуй.
Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца,
Ну проста хоць крыкні: „ратуй!“

Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
Здаецца панамі іх звать,
Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня будзем
І пойдзем мы долі шукаць.

Мы дружно паўстанем с касамі, с сярпамі,
Прагонім зямлі палачоў,
Нехай нас сустрэнуць палямі, лясамі,
Грамады працоўных людзеў.



## Беларускі друк.



1) „БЕЛАРУСЬ“—вялікая літэратурна-грамадзянская газэта, выходзіць толькі на беларускай мове (гражданкай), хаця прыймае абвесткі і на іншых мовах; выдаецца ў Менску; магла б месць найбольшыя уплывы на беларускае грамадзянства, але, знаходзячыся у сфэры польскай аккупацыі і цэнзуры, не мае магчымасьці казаць усе тое, што хацелась бы, і таму прымушана чэкаць большаго; асабліва кідаецца ў вочы атсутнасьць інфармацыі аб беларускай палітычнай працы.

2) „АБВЕСТКІ БЕЛАРУСКАГО ДЗЕРЖАЎНАГО ПРЭСС-БЮРО“—штотыднёвы беларускі бюллетень, выходзіць на беларускай і іншых мовах, друкуецца ў Берліне і Празе, дае істнуюць Аддзелы Дзяржаўнаго Прэсс-Бюро, друкуючы тое, што палякі забараняюць друкаваць на Бацькаўшчыне.

3) „ЧАСОПІСЬ“—ілюстраваны беларускі штомесячнік, выходзіць таксама толькі на беларускай мове і толькі гражданкай; выдаецца ў Коўні Міністэрствам Беларускіх Спраў пад кіраўніцтвам Міністра Язэпа Воронко; дае шмат цікаваго матэрыялу аб жыцьці беларусаў, апыніўшыхся на Літве, і карыстаецца вялікім спросам сярод беларускіх цывільных і вайсковых арганізацыяў і сярод шырокіх масаў беларускаго грамадзянства.

4) „БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ“—ілюстраваны беларускі тыднёвік, выходзіць на беларускай мове лацінікай і гражданкай, выдаецца у Вільні беларускім артыстам і пісьменнікам Ф. Алехновічэм; дае, глаўным чынам, матэрыялы літэратурныя і ілюстрацыйныя, бо палітычны беларускій рух у Вільні можа развівацца толькі ў бок „польскай арыентацыі“.

5) „ДУМКА“—незалежная палітычна-грамадзянская беларуская штодзенная газэта, выходзіла гражданкай у Вільні; за заметку, напраўленую працiў шаленых парадкаў польскай аккупацыйнай улады,-зачынена. Рэдактар аштрафованы і пасаджэны ў турму.

6) „БАЦЬКАЎШЧЫНА“—беларускі грамадзянска-палітычны літэратурны тыднёвік, выходзіў у Горадні на пяці мовах: беларускай, францускай, расейскай, нямецкай і еўрейскай; выдаваўся Беларускім культурна-прасьветным Таварыствам „БАЦЬКАЎШЧЫНА“; закрыўся дзякуючы прыходу ў Горадна палякоў.

7) „РОДНЫЙ КРАЙ“—беларуская палітычна-грамадзянская газэта, выходзіла у Горадні гражданкай; мела уплывы глаўным чынам на селянства, бо баранiла іх інтэрэсы; за гэта самае і зачынена польскай аккупацыйнай уладай. Рэдактар і супрацоўнікі арэштованы і пасаджэны ў турму.

8) „ВАРТА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ“—беларуская вайсковая газэта, выдаецца на беларускай і расейскай мовах Штабам аднаго з Асобных Беларускіх батальёнаў у папярэдняй абстаноўцы. Вельмі цікавы паказацель пашырэньня беларускай свядомасьці сярод беларусаў-вайсковых.

9) „ЗВОН“ і „НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ“—дзьве новых беларускіх газэты, вышаўшыя на Бацькаўшчыне пры палякох, замест некаторых зачыненых палякамі органаў; абедзьве газэты моцна сьціснуты цэнзурай і у палітычных справах не выяўляюць шчырых настрояў беларускаго грамадзянства.

10) „ЧЫРВОНЫ ШЛЯХ“—беларускі бальшэвіцкі штомесячнік, выходзіць на беларускай і расейскай мовах гражданкай у Петраградзе; выдаецца беларускай бальшэвіцкай партыяй, дае некаторыя матэрыялы аб працы беларускіх бальшавікоў, а глаўным чынам дае, як толькі можа, Беларускіх працаўнікоў на Бацькаўшчыне і на чужыне.

11) „ДЗЯННІЦА“—беларуская бальшавіцкая газэта, выходзіць гражданкай на беларускай мове у Маскве; нічога апрача афіцыяльных дэкрэтаў і дакладаў не дае, але лае беларускіх „белагвардэйцаў“ яшчэ больш люта, чым „Чырвоны Шлях“.

12) „KRYNICA“—(„Крыніца“)—орган „Беларускай Хрысьціянскай Злучнасьці“, ксяндзоўская газэта; выходзіць у Вільні лацінікай; найбольшцікава тым, што праз кожную строчку выглядае чорная сутана, ліцэмерна закатываючы вочы ў сьвятым экстазе.



## Паштовая скрынка.



1. Лявону З. Ці зроблена Вамі выданье кнігі „Беларусь“, ці не? Не маем вестак.

2. Е. К. Не маем Вашай кнігі аб Усебеларускім Кангрэсе і Народным Сэкрэтарыяце. Вельмі просім пераслаць ў Рэдакцыю. Было-б добра, каб ўсе выдадзеныя ў вашай старонцы беларускія рэчы Вы прыхавалі ў 3-х экзэмплярах для Рэдакцыі.

3, А. Паўловічу. Цэнтральнае Праўленьне Беларускаго Культурна-Прасьветнаго Т-ва „Бацькаўшчына“ дастала ад Вас за грошы рукапіс Вашай драмы „Васількі“ і права выдаць гэту рэч коштам Таварыства, аб чым сьведчыт пакінутая Вамі ў Казначэя Т-ва распіска.

Трэйцяго дні мы атрымалі з Вільні гэтую-ж драму, надрукованай ў тыпаграфіі „Промень“.

Ці ня будзеце ласкавы паведаміць нас, што гэта за здарэньне?

4. Р. Суніцы. Збіраемо Вам ўсё, што выходзіць на чужыне на беларускай мове. Просімо рабіць тое-ж і для Рэдакцыі.

Рэдактар—**Грыгор Казачы.**
Выдавец—Рыжэскі Аддзел Беларускаго Культурна-Прасьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“.

Друкарня Э. Левіна, Рыга, Гаспадзкая 26.

